

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн. (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№3 (389) | Нядзеля, 19 студзеня 1958 г. | ГОД ВЫДАНЬНЯ 12

# Да 35-годзьдзя стварэньня Савецкага Саюзу

У мінулым годзе, апрача саракагодзьдзя свайго йснаваньня, савецкая дзяржаўная сыстэма адзначала яшчэ адну дату ў сваім разьвіцьці — 35-годзьдзе стварэньня Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, аформленага 30 сьнежня 1922 году.

Стварэньне СССР было актам, які арганізацыйна й юрыдычна завяршыў сабой 5-гадовае змаганьне бальшавіцкай дыктатуры за аднаўленьне разбуранага рэвалюцыйнымі падзеямі 1917—1918 гг. папярэдняга імпэрскага тэрытарыяльна-дзяржаўнага камплексу, хоць гэтае аднаўленьне й адбывалася ў іншых палітычных і прававых формах ды абгрунтоўвалася іншымі ідэялягічнымі й палітычнымі мэтамі.

Да рэвалюцыі 1917 году Ленін быў наважаным праціўнікам фэдэратыўнае перабудовы Расейскай імпэрыі.

«Мы за дэмакратычны цэнтралізм, бязумоўна, — пісаў ён у 1913 г. С. Шаўмяну, — мы супраць фэдэрацыі... яна аслабляе эканамічную сувязь, яна нягодны тып для аднае дзяржавы».

Аднак ход падзеяў 1917—1918 гг. змусіў бальшавікоў зьмяніць папярэднюю тактыку ў дачыненьні да народаў былых расейскіх «акраін». Пасьлей Сталін паясьняў, «гэтую эвалюцыю поглядаў» партыі ў пытаньні дзяржаўнай фэдэрацыі галоўным чынам тым, што «да кастрычніцкага перавароту цэлы шэраг нацыянальнасьцяў Расеі аказаўся на справе ў стане поўнага аддзяленьня...» і што «ўдзельная вага нацыянальнага руху аказалася куды больш паважнай.., чымся гэта магло здавацца раней...»

І запраўды, пасьля бальшавіцкага перавароту ў бальшыні былых нацыянальных «акраін» былі створаныя дэмакратычным шляхам свае незалежныя дзяржавы, што парвалі сувязь з савецкай дыктатурай. З мэтай аблягчэньня заваёвы гэтых дзяржаваў і аднаўленьня ўспомненага вышэй дзяржаўнага «адзінства» ды стварэньня «шматнацыянальнае сацыялістычнае дзяржавы» й была высунута формула «фэдэрацыі савецкіх нацыянальных рэспублік».

Саветызаваныя, галоўным чынам савецкай ваеннай сілай, нацыянальныя дзяржаўныя арганізмы пачаткова разглядаліся ня проста як сябры новага фэдэратыўнага задзіночаньня, а як «самастойныя» савецкія рэспублікі.

Практычна, аднак, фармальна незалежныя г. зв. «дагаворныя» рэспублікі ўжо тады былі пазбаўленыя свае незалежнасьці. Згодна ўмоваў, яны перадавалі кіраўніцтва шэрагам важнейшых галінаў свайго дзяржаўнага жыцьця свайму «партнэру» — РСФСР (збройныя сілы, транспарт, фінансы, сувязь, прамысловасьць і г. д.); на чале РСФСР стала кіраўнічая палітычная сіла — РКП(б) у склад якое партыйныя арганізацыі ўваходзілі на правох звычайных абласных арганізацыяў камуністычнай партыі «дагаворных» рэспублік.

Умацаваньне савецкага рэжыму як унутры, так і на міжнароднай арэне дазволіла ЦК РКП(б) паставіць перад сабой заданьне прыдаць савецкаму дзяржаўнаму задзіночаньню больш цесны характар таксама і ў дачыненьні структурных формаў. Пры гэтым адразу-ж ажывіліся з новай сілай папярэднія тэндэнцыі да аднаўленьня ўнітарнай формы савецкае дзяржавы.

Патрэбная была актыўная інтэрвэнцыя хворага ўжо тады Леніна, каб гэты праект ня быў зрэалізаваны. Ён баяўся новых ускладненьняў, а ў прыватнасьці — падарваць аўтарытэт савецкае дзяржавы «сярод соцень міліёнаў народаў Азіі» мерапрыемствамі адзначанымі несправядлівасьцяй «у дачыненьні нашых собскіх іншародцаў».

Прынятая на патрабаваньне Леніна пастанова камісіі ЦК РКП(б) аб стварэньні г. зв. «Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік» павінна была прывесьці да стварэньня дзяржаўнага задзіночаньня, у якім былыя «дагаворныя» рэспублікі не ўваходзілі-б у склад Расейскай СФСР, а былі зь ёю на роўным дзяржаўным статусе. Аднак ні гэтая пастанова, ні навет падпісаньне 30. 12. 1922 г. чатырмя будучымі кампанэнтамі (РСФСР, УССР, БССР і Закаўказкая СФСР) саюзнае ўмовы аб стварэньні СССР не закончылі змаганьня навокал пытаньня новага агульнасавецкага дзяржаўнага твору. Цэнтралістычная бальшыня ЦК на чале із Сталінам імкнулася да таго, каб надаць СССР характар «адзінае саюзнае дзяржавы», у той час як «нацыянал-ухілістыя» Украіны, Беларусі, Грузіі й інш. рэспублік дабіваліся прыдаць «Саюзу» канфэдэратыўны характар без агульнай канстытуцыі й грамадзянства, з правам вядзеньня вонкавае палітыкі й гандлёвых сувязяў для паасобных рэспублік і г. д. «Ухілістыя» былі пераможаныя й канстытуцыя СССР, прынятая ЦВК СССР 6 ліпеня 1923 г. і зацьверджаная II зьездам саветаў СССР у студзені 1924 г., азначала СССР як адзіную «саюзную дзяржаву».

Аднак суб'ектамі фэдэратыўнага па форме СССР былі ня ўсе яго нацыянальныя кампанэнты, а толькі чатыры (спачатку) успомненыя рэспублікі. Правы іншых нацыяў заставаліся яшчэ больш абмежанымі.

Такім чынам, створаны ў сьнежні 1922 — ліпені 1923 гг. СССР у палітычным разрэзе быў дзяржаўным творам, заданьнем якога было разьвязаць праблему задзіночаньня «раней прыгнечаных народаў вакол расейскага пралетарыяту». З другога боку, новае дзяржаўнае задзіночаньне павінна было стацца пачаткам ажыцьцяўленьня новай, больш шырокай палітычнай мэты, што выцякала з «інтэрнацыянальнага характару савецкай улады». У Савецкім Саюзе, з назову якога былі выкінутыя ўсе геаграфічныя азначэньні (зь першапачаткавага праекту — «СССР Эўропы й Азіі» — у канчатковай рэдакцыі былі выкінутыя апошнія словы), стваральнікі яго бачылі «праўзор надыходзячай Сьветавай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі». Гэты прынцып быў ажыцьцёўлены ў 1924 г. у дачыненьні Харэзму (Хівы) й Бухары. На гэтай-жа аснове да Савецкага Саюзу былі далучаныя 16 год пазьней акупаваныя савецкімі войскамі рэспублікі Прыбалтыкі.

Што тычыцца нутранога дзяржаўна-палітычнага разьвіцьця СССР, то яно йшло па лініі пасьлядоўнага ажыцьцяўленьня прынцыпаў ленінска-сталінскага г. зв. «дэмакратычнага цэнтралізму». На працягу амаль трох дзесяцігодзьдзяў адбываўся працэс цэнтралізацыі кампэтэнцыі і ўсяго апарату дзяржаўнага кіраваньня СССР, які фактычна ўжо на працягу 8—9 год зьвёў да мінімуму правы й паўнамоцтвы паасобных саюзных рэспублік. Зь іхнай кампэтэнцыі былі поўнасьцяй адабраныя пытаньні абароны, вонкавай палітыкі, транспарту, сувязі, цяжкай прамысловасьці, сельскагаспадарчых нарыхтовак і інш. (Законы з 1. 2. 1944 г. аб стварэньні міністэрстваў замежных спраў і абароны ў паасобных рэспубліках былі разьлічаныя на вонкавапрапагандовы эфэкт і ня мелі ў сутнасьці практычнага значэньня).

Асноўным прынцыпам савецкага фэдэратыўнага ладу было: «забясьпечыць ... **адзінае** й задзіночанае кіраўніцтва грамадзкім жыцьцём, падпарадкаваўшы гэтаму заданьню і ўзаемадачыненьні між фэдэрацыяй і ейнымі сябрамі»,

Другая канстытуцыя 1936 году, што збольшыла лік беспасярэдня ўваходзячых у Саюз рэспублік (з 4-ох да 11), яшчэ ў большай ступені адбіла й зафіксавала ў заканадаўчым парадку рост і замацаваньне агульнасаюзнага кіраўніцтва ў розных галінах будаўніцтва.

Аднак, апошнія гады аднаасобнай дыктатуры Сталіна, што харакатарызаваліся ростам крызісу ўсёй савецкай сыстэмы, былі таксама пэрыядам крызісу савецкай цэнтралістычнай сыстэмы дзяржаўнай арганізацыі. Рост цэнтрабежных тэндэнцыяў у паасобных нацыянальных рэспубліках ды выняткова грамоздкасьць і непаваротлівасьць цэнтралізаванага мэханізму гаспадарчага кіраваньня змусілі калектыўнае кіраўніцтва КПСС стаць на шлях адхіленьня «празьмернай цэнтралізацыі» ў галінах гаспадарчага й культурнага жыцьця й г. зв. «пашырэньня правоў саюзных рэспублік». Апошнім была вернута да пэўнай ступені кампэтэнцыя ў справе адміністрацыйнага й судовага ўпарадкаваньня, а таксама пашыраныя функцыі іхных урадавых ворганаў у галіне гаспадарчага кіраваньня. Укаранаваньнем гэтых рэформаў была рэарганізацыя кіраўніцтва прамысловасьцяй у траўні-чэрвені 1957 г., якая прывяла да стварэньня эканамічных адміністрацыйных раёнаў ды прыцягнула да кіраваньня прамысловасьцяй апарат ня толькі Саюзу, але й саюзных рэспублік.

Палітычная сутнасьць рэформы зводзілася да пэўнай дэканцэнтрацыі гаспадарчага кіраваньня, што заключалася ў пэўным пашырэньні функцыяў урадавага апарату рэспублік, а галоўнае — у даручэньні праводжаньня ў жыцьцё агульнасаюзных заданьняў кіраўнічым ворганам партыі ў гэтых рэспубліках.

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# „Маладая Беларусь“

**(ЗЬ МІНУЛАГА)**

Навет ня надта даўняе мінулае разьвіцьця беларускага нацыянальнага адраджэньня ў афіцыйным трактаваньні ў БССР зарасло дзірваном, пустазельлем, а ранейшае — дык і пагатоў.

Партыйна-бальшавіцкая догма не дазваляе там бачыць нічога паза сакрамантальную вялікую... кастрычніцкую. Пачаткам усіх пачаткаў павінна быць выключна яна — кастрычніцкая, што сорак год таму... і г. д.

Да яе — нічагусенькі, хіба што адно «прагрэс», навет у захопніцтве, таго «братняга», расейскага й бязумоўна — вялікага... Каб не яна, то хто ведае...

Падобныя афіцыйныя вэрсіі ўжо прыеліся, навет равесьнікам усьвечанага кастрычніка. Ня дзіва, што Я. Кірылаў у «Беларусі», №11 за 1957 год, наракае, што: «...мала аддаецца ўвагі мэмуарнаму жанру. Ня друкуюцца пісьмы й успаміны старэйшых пісьменьнікаў Беларусі, адкуль маладое пакаленьне можа даведацца аб падзеях мінулага...»

Правільна. Ня друкуюцца! І друкавацца ня могуць. Удзельнікаў і сьветкаў падзеяў мінулага ня шмат. Бальшыня іх, прыпячатаная таўром «ворагі народу», злажыла свае косьці ў «перадавых» бальшавіцкіх лягерах сьмерці ды ў ссылках. Не адазвуцца з таго сьвету... Не адважацца сказаць праўду й ацалелыя ў БССР. Тое, што дазволяць сказаць, расплывецца ў вайстрыні казённае прыправы. Гэта ў БССР.

А як у вольным сьвеце, дзе, на шчасьце, жыве крыху ўдзельнікаў і сьветкаў гістарычных падзеяў, дзе ёсьць свабодная прэса, радыё? Пахваліцца асабліва няма чым, а шкода што належна ня выкарыстоўваюцца ўсе магчымасьці свабоднага творства.

Маладое пакаленьне і тут, на эміграцыі, будучы ў чужых школах, шмат чаго ня ведае, ды й старэйшыя ня ўсё ведаюць. Калі нідзе ня публікаваць успамінаў ды матарыялаў зь мінулага, то можа здарыцца, што вельмі каштоўныя гістарычныя эпізоды пойдуць у забыцьцё. Гэта было-б вялікай і шкоднай стратай.

Таму нашым грамадзкім арганізацыям на эміграцыі варта было-б дапамагчы тым, хто можа і мае што сказаць, прачнуцца ды падзяліцца сваімі ведамі, пакінуць сьлед пра цікавейшыя гістарычныя падзеі ў вольнай прэсе, выданьнях, а праз радыё «Вызваленьне» і пазнаёміць суродзічаў за зялезнай заслонай. Хто, прыкладам, з маладых, а часта й старэйшых і тут і там ведае ці памятае, што беларускі нацыянальны друк да рэвалюцыі не абмяжоўваўся адно «Нашай Доляй» і «Нашай Нівай»? Ведаюць найбольш пра «Нашу Ніву» і тут і там. Толькі там яшчэ ладзяць выстаўкі, як «40 год беларускага друку», зь якіх вынікае, што беларускі друк мог разьвівацца й разьвіваўся ды красаваў выключна ў умовах савецкае сыстэмы.

Тымчасам гэта не адказвае праўдзе. Даволі прыпомніць мала ведамы адзін адно факт: паўстаньне зь ініцыятывы нелегальнага беларускага студэнцкага гуртка ў Пецярбурзе ў 1906 годзе беларускай выдавецкай супалкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», каб перакanацца ў гэтым. Галоўным арганізатарам яе быў Вацлаў Іваноўскі, замардаваны ў Менску ў часе апошняй нямецкай акупацыі. Супалка выдавала беларускія кніжкі з прыгожага пісьменства, школьныя падручнікі й навукова-папулярныя брашуры.

У 1912 годзе супалка пачала выдаваць літаратурна-грамадзкі часапіс «Маладая Беларусь». Пра характар выданьня даюць поўнае ўяўленьне ўнікальныя два нумары, што захаваліся ў публічнай бібліятэцы ў Нью Ёрку. Гэта сшытак № 2 за 1912 год і сшытак № 3 за 1913 год.

Сшытак №2 абыймаў 150 бачынаў друку фармату сучаснага савецкага часапісу «Полымя», але розьніца між імі бяздонная. Нумар 2-гі «Маладой Беларусі» адчыняўся артыкулам ведамага тады расейскага прафэсара А. Пагодзіна «Беларускай Моладзі», дзе прафэсар ставіў пытаньне: «...ці дажывіцё з часам і вы тэй пары, калі кажны гвалт над станам, родам, нацыяй, верай ня будзе ня лічыцца тым, чым ён ёсьць папраўдзе: брыдою і праступкам...»

Прайшло 45 гадоў ад таго, а пытаньне ня згубіла сваей актуальнасьці й сяньня.

Пасьля гэтага ішоў артыкул А. Навіны «К пытаньню аб нацыянальных адносінах у Беларусі й Літве», а далей: творы Якуба Коласа, аўтабіяграфія Цішкі Гартнага, замучанага бальшавікамі, а нядаўна рэгабілітаванага, ягоныя вершы, апавяданьні Власта ды вершы Ф. Чарнышэвіча. У вадным зь іх паэта клікаў:

«Дайце мне шчасьце, дайце мне волю, —
Мукі хачу я здалець!..
Цяжкай няволі — ужо даволі!
Досі пагарду цярпець!»

Ніхто ў цяперашняй БССР навет падумаць гэтак не паважыцца, ня то што пісаць, а гэта-ж друкавалася ў часе пасьлярэвалюцыйнае 1905 году царскае рэакцыі!

Сшытак 3-ці за 1913 год абыймаў 144 бачыны. У пачатку ішоў урывак зь ліста праф. З. А. Вольтэра да рэдакцыі, у якім ён падаваў да ведама, што ў 1501 годзе катэдральны віленскі пробашч, протанатарыюш папескі й сакратар Вялікага Князя Літоўскага Аляксандра — Эразм Вітэллі, будучы на аўдыенцыі ў папы ў Рыме, сьцьвярджаў, што Летувісы, хоць і маюць сваю собскую мову, аднак «часьцей ужываюць беларускай гутаркі, бо яна прыгожая й болей лёгкая».

Далей ішлі — «Аб маладым паэце з Крошына» (Паўлюку Багрыму), вершы Канстанцыі Буйлы, апавяданьні Ул. Галубка (пазьней ведамага кіраўніка беларускага Дзяржаўнага Вандроўнага Тэатру, замучанага бальшавікамі й нядаўна рэгабілітаванага), вершы Я. Журбы, А. Гурло, А. Петрашкевіча, «Абразкі» З. Бядулі, апавяданьні А. Цёткі й С. Міхалкі.

У вапавяданьні Ул. Галубка «Парабкі» старац-дзед сьпяваў:

«Вып'ю я чарку, забуду пра гора,
Засьмягшыя губы хоць чуць прамачу.
Годзе жыці ў зьдзеку, ў пакоры,
І так ужо досыць век цэлы маўчу».

Тады, хоць выпіўшы чарку, дзед мог крыкнуць: «Годзе зьдзеку!», цяпер-жа, дарма што манаполька ў БССР працуе ня горш царскай, — ніякі дзед і ня пісьне! Некаторыя сучасныя савецкія

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# За мінулы тыдзень

**(пс)** «Звычайна прыпушчаюць (і не без абгрунтаваньня), што выбух вадароднай бомбы над такім горадам, як Лёндан, стварыў-бы страшэнны хаос. Аднак савецкі ўрад можа пахваліцца, што ён, больш мяккімі, але ня менш узьдзейлівымі спосабамі выклікае на Захадзе псыхалягічны хаос. Хопіць толькі Хрушчову на нейкім прыняцьці у нейкім пасольстве, быццам-бы прыпадкова кінуць некалькі супярэчных думак, або пагутарыць зь якімсь прыежджым ангельскім дыпляматам, або напісаць ліст у рэдакцыю ангельскага часапісу; хопіць, каб Булганін разаслаў цыркулярныя лісты кіраўніком дзяржаваў, каралём, прэзыдэнтам ці дыктатарам... каб увесь Захад пачынае хваляваццa і пісьмова, або вусна «прыймае» выразна бязглуздыя рэзалюцыі, ды займае нейкія «пазыцыі»... Вось дзе хаос...»

Гэтыя словы могуць быць найлепшым моттам для тыднёвых разважаньняў на палітычныя тэмы. Гэтыя словы нядаўна напісаў ведамы пісьменьнік і філязоф Сальваторэ дэ Мадарыяга.

Усё можам закінуць маскоўскім верхаводам, але ніякім чынам недахопу палітычнай актыўнасьці.

Штомесячная рэгулярная паводка булганінскіх лістоў да кіраўнікоў заходніх дзяржаваў і, няменш рэгулярныя штотыднёвыя гутаркі **Хрушчова з заходнімі** журналістымі, **сапраўды ствараюць** на Захадзе хаос. **Перадусім усе заходнія** дыпляматы сушаць цэлымі тыднямі галовы, што Булганін і Хрушчоў сказалі, пазьней парушаюць мазгі, што ім адказаць і, ўканцы, калі з цяжкароднымі болямі сплодзяць нейкі адказ, праз некалькі гадзін Булганін у вадказ на адказ засыпе іх лістамі з прапановамі і праектамі. І зноў усё пачынаецца ад прыпечка.

У чым-жа тады сакрэт? Ці бальшавіцкія дыпляматы такія спрытныя і разумныя, што так лёгка заганяюць у казінны рог заходніх дзяржаўных мужоў?

Якраз не. Булганінскія лісты, ноты і звароты ня ўносяць нічога новага ў справу; толькі што Булганін бязсорамна хлусіць, а пры гэтым патрасае кулаком. Булганін таксама ня піша сваіх лістоў да Айзэнгаўэра, Адэнауэра, Макміляна, хаця ім іх адрасуе. Ён піша да заходняга грамадзтва. Гэта ёсьць дывэрсыя і дывэрсыя вельмі-ж для Захаду небясьпечная. Тымбольш, што Булганін ведае, чаго хоча і ставіць канкрэтныя прапановы.

Булганін мае яшчэ адну перавагу над сваімі заходнімі партнэрамі, што ён не патрабуе лічыцца з думкай свайго грамадзтва і з апініяй сваіх г. зв. «саюзьнікаў» — васаляў. **А на Захадзе мусяць.** Просты хлебаед, ці псаед, ці сьлімакаед на Захадзе не разумее, што новая «Жэнэва» будзе вялізарнай выгранай Масквы, але ён чытае, што Булганін піша, што калі кіраўнікі дзяржаваў як найхутчэй сустрэнуцца ў Жэнэве, дык напэўна дагаворацца і небясьпека вайны будзе зьліквідаваная.

Горш, што навет ня толькі простыя людзі, але і «рутынаваныя» палітыкі лятуць на маскоўскі кручок. А найгоршае тое, што заходнія палітыкі аддаюць ініцыятыву Маскве і ня ведаюць, або ня могуць дагаварыцца паміж сабой адносна контра Маскве.

Вельмі пацяшальным **быў-бы факт,** што Айзэнгаўэр — падобна ў паразуменьні з саюзьнікамі — адказаў Булганіну на ягоны апошні ліст «НЕ». Аднак гэтае «не» ня было дастаткова цьвёрдае, бо і тут трэба было «Богу сьвечку і чорту качаргу» — і ціск найнай гэтак званай «грамадзкай думкі» ня зьнівэлюе гэтае «не» да не...

Так доўга, як Захад будзе весьці палітыку з дня на дзень, будзе ў сваім дзеяньні не станоўчы і непасьлядоўны, а — што найгоршае — ня будзе ведаць чаго хоча — бальшавікі будуць мець перавагу.

# З даўніх успамінаў былога камуністага

(Гл. два папярэднія н-ры «Б-ны»)

І вось вялікая заля кінатэатру «Калізэум» (колішняя праваслаўная царква, зачыненая ў 1920 годзе) на вуліцы Валадарскага ў Менску, дзе аднаго вечару ў сьнежні 1930 году «чысьцілі» беларускага пісьменьніка Цішку Гартнага, сябру камуністычнае партыі й былога дырэктара дзяржаўнага выдавецтва Беларусі, абвінавачанага ў сымпатыях да беларускага «нацыянал-дэмакратызму» (рух, мэтай якога было стварэньне беларускай, амаль буржуазнай, незалежнай ад СССР, рэспублікі), а які на справе быў толькі «вінаваты» ў тым, што даволі сьцюдзёна адносіўся да «грандыёзных справаў» Сталіна ў дачыненьні да вёскі. Я бачу, як быццам гэта было ўчора, тры вечары мукаў, прысьвечаных па тое, каб зьдзеквацца й насьміхацца з чалавека, з інтэлектуалістага.

. . . . . . . . . . . . . . . .

На сцэне Цішка Гартны, чалавек пяцідзесяці гадоў, нізкага ўзросту, крыху таўставаты, з круглымі акулярамі на канцы носу. Ён паважным і манатонным голасам заканчвае перад перапоўненай заляй (падумайце, «судзілі» аднаго зь лепшых пісьменьнікаў Беларусі і, у дадатак, ведамага камуністага!) вымушаную споведзь свайго жыцьця. І цяпер, крыху з пагардай, а яшчэ больш із смуткам, ён чакае шматлікіх ды таксама абавязкавых пытаньняў, на якія трэба адказваць, хоць-бы яны былі дурныя, абразьлівыя ці навет датычылі (а гэта амаль нямінуча) ягонага прыватнага, інтымнага жыцьця...

Ён спакойны, гэты Цішка Гартны. Ён амаль абыякавы да ўсяго, што робіцца на залі. Бо ён ведае, што будуць гаварыць іншыя і што скажа ён, ягонае імя будзе вычыркнута зь лісты сяброў партыі. Дык пашто-ж гэтая камэдыя «чысткі», праводжанай «пралетарскімі масамі» ў гэтай залі, калі прысуджэньне нямінучае? Гэтая камэдыя патрэбная перадусім па тое, каб можна было пасьля сказаць (асабліва паза савецкімі межамі) што ў Савецкім Саюзе сам «народ» судзіць «шкоднікаў», а таксама, каб маральна зьнішчыць «чышчанага». Так, каб зьнішчыць! Не таму, што ён «шкоднік». Вельмі часта, а фактычна заўсёды, гоняць найлепшых, найбольш разумных і гуманных. І якраз таму, што гэтыя людзі мелі сьмеласьць сумлявацца, мелі адвагу не пагаджацца з маскоўскімі бонзамі. А гэтае адвагі Сталін не даруе ніколі.

...На сцэне чалавек, пісьменьнік. На залі, унізе ля ягоных ног, расхваляваная маса, сярод якое выдзяляюцца кампактныя групы «сталінцаў» бяз сэрца й літасьці, гатовых на ўсё. Праціўнікі, гатовыя паперабівацца...

Хвіліна пытаньняў і адказаў надыйшла... Пачаўся жудасны маральны зьдзек...

☆

— А можа таварыш Гартны скажа нам, чаму ён у сваіх літаратурных творах не атакуе кулакоў? — крыху насьмешлівы голас даносіцца з глыбіні залі.

— Я пісьменьнік, а не журналісты, — паясьняе Цішка Гартны. — Гэта толькі артыкуламі можна адказваць на кажную палітычную кампанію. Літаратурны-ж твор вымагае месяцаў, часта навет гадоў, для падрыхтоўкі...

— Але-ж вы, таварыш, прынамсі да цяперашняга, зьяўляецеся камуністым. Няпраўда? — працягвае той-жа голас.

— Так, я камуністы...

— Дык, калі вы камуністы, чаму ня робіце таго, што загадвае партыя?

— Спрэцызуйце вашае пытаньне... Я не разумею, што вы хочаце ведаць!

— Прэцызую: камуністычная партыя загадала ўсім, асабліва пісьменьнікам, дапамагаць калектывізацыі... Чаму таварыш Гартны нам не дапамагае? Таму, што ня згодны з палітыкай партыі?

— Я напісаў адзін артыкул...

— Ах, так?! Але-ж вы там нічога не сказалі супраць кулакоў! — крычыць з канца залі іншы «сталінец».

— Я пісаў, як мог!

— А ў вашых раманах? — працягвае першы, — чаму ў раманах вы не атакавалі ворагаў працоўнае клясы?

— Пісьменьніку не загадваецца! — адказвае Цішка Гартны. — Мне шкада, што вы гэтага не разумееце...

— Я разумею, ды яшчэ як! — крычыць той. — Вы зусім не камуністы... Я скончыў, таварыш старшыня!

— Хто яшчэ мае пытаньні? — пытаецца старшыня «тройкі».

— Я, таварыш старшыня! — крычыць нехта. — Я хачу ведаць, колькі Цішка Гартны зарабляе ў месяц.

— Дзьвесьце пяцьдзесят рублёў, калі гэта вас цікавіць, — адказвае пісьменьнік, павярушыўшы плячыма.

— А я хачу папытацца таварыша Гартнага якая розьніца між сацыялізмам і капіталізмам? — пытае іншы.

— Што гэта я ў палітычнай школе? Здаю экзамен?! — ускрыквае Цішка, чырванеючы ад злосьці. — Я адмаўляюся адказваць на падобныя пытаньні!

— Бяру гэта да ведама! — зь гіранічным сьмехам адказвае той, хто пытаўся.

— Таварыш Цішка Гартны, я павінен вас папярэдзіць, што вы забавязаныя адказваць на ўсе пытаньні, якія вам задаюць! — срога заўважыў старшыня «тройкі».

— Навет на найбольш дурныя?

— Пытаньняў дурных няма... Таварыш, лічэцеся із славамі!

— Я ня вучань!

— Я вам загадваю адказваць... Хутчэй!

— Ну, хай сабе! — кажа Гартны й ягоныя рукі трасуцца ад непаўстрымaнай злосьці. — Вось-жа я адказваю, што гэтае розьніцы ня ведаю...

— Камітэт трох возьме на ўвагу ваш адказ, таварыш Гартны! — суха сказаў старшыня.

І сваім войстрым голасам зьвяртаючыся да залі:

— Таварышы, хто яшчэ мае пытаньні?

☆

...Тры доўгія вечары трывала гэта подлая камэдыя. Тры доўгія вечары зьдзекваліся з чалавека, інтэлектуалістага, пісьменьніка. Першыя два вечары ад васьмі да дванаццаці — пытаньні дурныя, грубыя, недалікатныя, а апошні вечар — абразы, пагрозы, насьмешкі спушчаных з ланцуга «сталінцаў» супраць безбароннага чалавека, супраць пісьменьніка, «праступствам» якога быў толькі сумлеў (і на колькі апраўданы!) што да важнасьці й карысьці «грандыёзнае сацыялістычнае справы».

Цішка Гартны быў выкінуты з камуністычнае партыі. Пакінуўшы ў верасьні 1931 году Менск, а пасьля й СССР, я ня меў нагоды даведацца пра далейшы лёс гэтага чалавека.

— Што за сьвіньні! — зь нястрыманай злосьцяй працадзіў праз зубы побач мяне таварыш У..., калі пасьля апошняга вечару «чысткі» Цішкі Гартнага, амаль а першай гадзіне ночы мы йшлі па Савецкай вуліцы. — І гэты хлеў яны хочуць называць сацыялізмам!

Таварыш У... зьяўляецца (фактычна зьяўляўся, бо цяпер у няласцы) таксама ведамым камуністым. Я яго вельмі добра ведаў у тым часе (1928-1929), калі ён займаў даверанаую пасаду старшыні «Главліту» Беларусі, арганізацыі, што займалася цэнзурай усяе літаратуры Беларускай сацыялістычнай рэспублікі. Трэба сказаць, што ён быў цэнзарам даволі лібэральным, навет за лібэральным для ўмоваў СССР. Праўда, ён не застаўся доўга на гэтай адказнай пасадзе і калі ён трапіў у няласку, дык гэта напэўна з прычыны свайго лібэралізму. Гэта быў праўдзівы ідэалісты, пераканаты й бязінтэрэсоўны камуністы, чалавек, які ніколі ня выкарыстоўваў свае сытуацыі, каб нажыцца, ці палагоджваць свае асабістыя справы. Тып вельмі рэдкі, якога аднак час ад часу можна сустрэць навет і ў СССР.

— Хадзі, зайдзем да мяне на чарку, — раптам кажа мне У... калі мы апынуліся ля ягонага памешканьня. — Маю яшчэ кусок каўбасы... Пагаворым крыху...

☆

— Пракляцьце!.. Пракляцьце!..

У... усхваляваны праходзіўся па малым паксіку, дзе мы двох і ягоная разбуджаная жонка, заканчвалі ноч пасьля бурнага вечару ў кінатэатры «Калізэум».

— Андрэй, прашу цябе, супакойся! — кажа ягоная жонка, кідаючы нясьмелы позірк у мой бок. — Мы-ж не самі... Таварыш...

— Будзь спакойнай за гэтага таварыша, я яго ведаю, — адказвае У... — Ён ня з тых, што прадаюць людзей!

— Супакойцеся, я ня з тых...

— Бачыш! — кажа У... зьвяртаючыся да жонкі, — А перадусім я чытаў ягоныя кніжкі, ён за разумны, каб пагаджацца з тым што робіцца! А прытым, каб ён навет пайшоў заўтра ў ГПУ й перадаў нашую гутарку, дык думаеш я пабаяўся-б? — загрымеў У..., што раз больш знэрваваны. — Я, які змагаўся ўсё сваё жыцьцё за сацыялізм, але не за гэты хлеўны сацыялізм! Я, які ў часе грамадзянскай вайны тройчы пераходзіў лінію белых, каб рабіць прапаганду ў іхных тылох! Я, які быў два разы арыштаваны й прысуджаны на сьмерць жандарамі Врангеля і які два разы ўцёк зь іхнае турмы ў Растове! Я маю баяцца Сталіна й ягоных шпіёнаў?.. О, не, таварыш!.. Хай прыходзяць... Я іх добра сустрэну!

У... быў у гэты мамэнт надзвычайны. Вочы блішчэлі, усё цела дрыжэла ад усхваляванасьці, кулакі нэрвова заціснутыя, голас поўны злосьці й запраўднай адвагі... Вось хто не пабаіцца адкрыта глянуць у вочы навет і сьмерці!

У цішыні я падыймаюся й моцна паціскаю яму руку...

— Так, таварыш, якое расчараваньне, якое агромнае расчараваньне! — уздыхнуў У... й ягоныя вочы напоўніліся сьлязамі. — Бачыш, для нас, што з аружжам у руках змагаліся за сацыялізм, цяжка глядзець на ўсё гэта!

— Але-ж гэта сацыялізм, таварыш, — заўважыў я, — У кажным выпадку — сацыялізм у будове... Прынамсі нас у гэтым запэўніваюць!

— Не, не, гэта не сацыялізм, за які я й іншыя змагаліся, пралілі столькі людзкое крыві!.. Не! Мы змагаліся не за гэтакі хлеў! Мы хацелі бачыць усіх людзей вольнымі, шчасьлівымі, задаволенымі... Мы хацелі запраўднага братэрства на зямлі! І нам даюць брудны хлеў, дзе людзі — людзі! — панумэраваныя, як жывёла ў бойні, павінны заставацца кажны на сваім месцы, ня рухаючыся, ня думаючы... Гэта-ж горш, тысячу разоў горш, чымся царызм!.. Не, не, гэта не сацыялізм!

— Аднак-жа...

— Добра! Калі гэта сацыялізм, дык я яго не хачу! Не хачу! Не хачу! — закрычаў У... трацячы над сабой панаваньне.

— Андрэй, прашу цябе! — адазвалася жонка, — Таварыш разумее, але-ж ёсьць іншыя... суседзі!..

. . . . . . . . . . . . . . . .

Аблакаціўшыся на стале, У... плакаў... па сваіх неажыцьцёўленых снах — даць шчасьце на зямлі тым, што церпяць. Ён выплакваў сваю веру ў сацыялізм.

# «Ахвярныя казлы»

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

адразу-ж прыйшла й неабходнасьць выцягнуць «на сьвятло» тых, хто «адарваўся» ад жыцьця народу. Пошукі ня былі доўгімі. Аладаў стаяў тут-жа перад вачыма. «Ахвярны казёл» быў.

І вось на сходзе актыву працаўнікоў літаратуры й мастацтва БССР у Менску (лістапад 1957 г.) на Аладава наваліліся пільныя вартаўнікі сацыялістычнага рэалізму. Асабліва пастараўся тут кампазытар Алоўнікаў, зрабіўшы ў сваім рэфэраце «разаблачэньне» кампазыцыяў Аладава: нездаровыя густы, паважныя недахопы музычнае формы, незразумеласьць зьместу, адсутнасьць папулярнасьці сярод масавага слухача й г. д. Успомніў Алоўнікаў і непавагу Аладава да «прынцыповай» (г. зн. тэндэнцыйнай) крытыкі. Алоўнікаў накінуўся ня толькі на Аладава, але й на крытыкаў Смольскага й Нісьневіч, закідаючы ім «няпрынцыповасьць» іхняй крытыкі апошніх твораў Аладава. Як маглі ім падабацца тыя творы, якія яму, Алоўнікаву, нё падабаюцца!? Словам, Аладава публічна паставілі да ганебнага слупа.

Уся гэтая справа набывае своеасаблівы адценак, калі наш чытач даведаецца, што публічную «экзэкуцыю» Аладава правадзіў той чалавек, які яшчэ малым хлопчыкам прыйшоў да Аладава, каб той раскрыў перад ім музычныя таямніцы. Аладаў прысьвяціў Алоўнікаву асаблівую ўвагу, першы адкрыў ягоныя здольнасьці, клапатліва накіроўваў ягоныя першыя крокі, можна сказаць — выцягнуў за вушы Алоўнікава, паставіў яго на прафэсіянальны шлях як музыку, ня лічачы ўжо таго, што й матар'яльна апекаваўся ім. Цяпер Алоўнікаў адплачвае Аладаву за ягоную любоў і клопаты, як гэта й сьлед чалавеку з партыйным білетам, ідэялёгія якога пабудавана на нянавісьці да чалавека, на цынізьме. Ці не таму Алоўнікаў робіць такую хуткую кар'еру, а такі паважны музыка як Аладаў знаходзіць толькі месца ля ганебнага слупа?

**Мікола Куліковіч**

# У абароне праўды

*Ліст у Рэдакцыю*

**Вельмі Паважаны Рэдактар!**

Прашу апублікаваць мой гэты ліст у абароне праўды, паймення, адносна выдуманай прыналежнасьці нябошчыка Янкі Чарапука-Змагара да БЦР.

Апошні нумар (5/37) «Беларускага Слова» за месяц сьнежань 1957 г. у справаздачы зь 15 пленуму БЦР, які адбыўся ў Саўт Рывэры ў ЗША памясьціў вестку быццам Янка Чарапук-Змагар, б. надзвычайны міністар Беларускай Народнай Рэспублікі, памёршы 16 лістапада 1957 г., належаў да Беларускай Цэнтральнай Рады, як «сталы сябра». Дзеля таго, што гэтакую вестку п е р ш ы р а з апублікавалі прадстаўнікі БЦР толькі цяпер, гэта значыць пасьля сьмерці Янкі Чапарука-Змагара, калі ён сам ня можа запярэчыць, дык прыходзіцца мне выступіць у імя памёршага.

Янка Чарапук-Змагар утрымоўваў са мной самую блізкую прыяцельскую сувязь ад 1950 году, гэта значыць ад першай сустрэчы, дзелячыся сваімі паглядамі, зацікаўленьнямі, перажываньнямі і г. д. Час ад часу прыносіў ён, або перасылаў мне поштай, атрыманыя, або пісаныя ім самым лісты ў розных беларускіх справах, а пасьля ягонай сьмерці ўся ягоная карэспандэнцыя, асабістыя й іншыя дакуманты, фатаздымкі й г. д. знаходзяцца ў мяне. Усё гэта дало мне магчымасьць дакладна пазнаць асобу памёршага. Апрача таго, я зносіўся зь іншымі людзьмі, у якіх Янка Чарапук-Змагар жыў ці утрымоўваў таксама блізкія прыяцельскія дачыненьні, і дасьледываў эвэнтуальную магчымасьць ягонага прыналежаньня да БЦР.

З усяго дакумантальнага матар'ялу, з майго асабістага зь ім знаёмства, а таксама із сьветчаньняў іншых людзей, пражываючых у Чыкаго і ў іншых гарадох ЗША — нікому нічога ня ведама, каб Янка Чарапук-Змагар належаў да БЦР. Ня ведама таксама й для тутэйшых прадстаўнікоў БЦР. Наадварот, пададзеная вестка выклікала зразумелае зьдзіўленьне, як абсалютна немагчымая, навет сярод тутэйшых сяброў БЦР, бо нябошчык займаў ваюючае становішча адносна бэцээраўскіх тутэйшых арганізацыяў.

Зь пісьменнай дакумантацыі (перапіскі з др М. Шчорсам) вынікае, што ў

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

Шчыра мяне ты любіла,
Шчыра цябе я кахаў,
Але давёў да магілы,
Сам на мучэньні аддаў.

* * *

Бязь сіл, у поце ўся, як белы сьнег блядна,
На зьлітаю крывёй і зьмятай караваці
Ляжыць шчасьлівая і жалкая яна,
І аб адным у ёй цяпер дума: «Я — маці».

Яна збалела ўся. Ёй, можа, ўжо ня жыць.
І ўсё-ж ткі радасьцяй бязьмежнай зьзяюць вочы,
А на яе тугіх грудзёх ляжыць
Чырвоны, цёпленькі і неяк сьмешна смокча.

* * *

Пасьля радзін ты ўсё штадня марнееш:
Асунулася цела, зблякнуў твар,
Засьмяглі і растрэскаліся вусны
На іх парой няпэўна прабяжыць
Пасьмех — і зьнікне, жаласны й пужлівы;
Як сьцені, сіняватыя кругі
Навокала вачэй ляглі, а вочы
Як быццам просяць зьлітавацца ўсіх.

Так крохкая, пушыстая багатка
Пад ветрам аблятае, каб магло
Яе насеньне ўзрасьці і кветнуць,
І толькі кволае сьцябло пасьля
Гаворыць аб жыцьці, дзіцём адданым.

* * *

«Смертію смерть поправ»,
Ты ад жыцьця адпачыла;
Ў муках памерла сама,
Але дзіцё спарадзіла.

Хутка у землю навек
Цела стамлёнае ляжа;
Хай-жа, як сымбаль над ім,
Крыж пра мучэньні нам скажа.

* * *

Тым вянкі суворай славы,
Што за край свой у баю
Жэраб вынялі крывавы,
Напаткалі сьмерць сваю.

Ды слаўней цяжарнай доля, —
Ў сэрцы маючы любоў,
За дзіцё зазнаці болі
За дзіцё праліці кроў.

Слава тым, хто сілу мае
Сьмерць, ня здрогнуўшы, спаткаць,
Хто ў мучэньнях памірае,
Каб жыцьцё дзіцяці даць!

* * *

Белы крыж, пліта, пад ёй — магіла;
Мілым кветам рожа зацьвіла.
Тут калісь ты, дружа мой, спачыла, —
Спарадзіла ў муках і лягла.

Усё мінулася — і боль, і гора —
Усё кудысь далёка адыйшло;
Але стродкі надпіс: „Disce mori“
Нагадае, што з табой было.

### IV

## Вершы пасьля „Вянка“

**Да нявыданага зборніка «Красавік» (або «Маладзік»)**

**(1913—1915)**

**1913**

* * *

Ізноў пабачыў я сялібы,
Дзе леты першыя прайшлі:
Там сьцены мохам парасьлі,
Вясёлкай адлівалі шыбы.
Усё ў пылу. І стала мне
Так сумна, сумна ў цішыне.
Я ў сад пайшоў. Ўсё глуха, дзіка,
Усё травою зарасло.
Няма таго, што раньш было,
І толькі надпіс «Вэраніка»,
На ліпе ўзрэзаны ў кары,
Казаў вачом аб тэй пары.
Расьці, ўзмацовавайся, дрэва,
Як манумэнт жывы, ўставай
І к небу надпіс падымай.
Хай нярухомы словы сьпеву —
Чым болей сходзіць дзён, начэй,
Тым мілае імя вышэй.

**(Далей будзе)**

# У абароне праўды

## *Ліст у Рэдакцыю*

**(Заканчэньне з 3-яй бач.)**

1951 г. з боку др М. Шчорса, а пасьля інж. І. Ясюка былі робленыя спробы, каб выкарыстаць аўтарытэт Янкі Чарапука-Змагара на становішча старшыні агульнага зьезду прадстаўнікоў беларускай эміграцыі ў мэтах ліквідацыі існуючага эміграцыйнага падзелу й стварэньня аднаго прадстаўніцтва. Былі таксама гутаркі аб наладжаньні ў ЗША Кангрэсовага Камітэту, як адзінага беларускага прадстаўніцтва ў гэтай краіне, але няма ніякіх сьлядоў аб эвэнтуальных нават прапановах, каб Я. Чарапук Змагар уступіў у БЦР, «як сталы сябра». Др М. Шчорс, а потым ягоны высланьнік інж. І. Ясюк асабіста прыяжджалі ў Чыкаго ў вышэйапісанай справе, але з усіх гэтых гутарак і зь перапіскі нічога ня вышла, бо ў міжчасе Я. Чарапук-Змагар наглядна пераканаўся ў нянічырасьці перамоваў ды ў варожай акцыі, ведзенай прадстаўнікамі БЦР у дачыненьні да Бел. Прав. Аўтакефальнай Царквы. Такім чынам у канцы 1951 г. усякая перапіска Я. Чарапука-Змагара з прадстаўнікамі БЦР была спыненая, і ён ня меў ніякіх дачыненьняў ані да афіцыйных зьездаў БЦР, ані да якіх-колечы арганізацыяў, прымыкаючых да БЦР.

Мала таго, Янка Чарапук-Змагар, бачачы, як вялікі рабіўся націск на Язэпа Варонку, першага прэм'ера ўраду БНР, з боку БЦР, каб яго ўцягнуць у сваю арбіту, выкарыстаў свае сяброўскія да яго дачыненьні й пераканаў яго ў неабходнасьці супрацоўніцтва з БНР, у выніку чаго было супольнае апублікаваньне звароту «Да Беларусаў усяго сьвету». У гэтым звароце Я. Варонка й Я. Чарапук-Змагар як б. сябры ўраду БНР заклікаюць усіх Беларусаў на эміграцыі гуртавацца вакол Рады БНР і яе прэзыдэнта інж. М. Абрамчыка. Копія гэтага дакуманту была апублікаваная ў «Бацькаўшчыне» № 14/93 з 6 красавіка 1953 г., арыгінал знаходзіцца ў мяне.

Выкарыстоўваньне чужых аўтарытэтаў дзеля падмацоўкі БЦР — старая справа. Яна ўжо мела свой розгалас, калі памёр у Нямеччыне ў 1948 г. Мікола Шыла, удзельнік Першага Усебеларускага Кангрэсу (1917) і шырока ведамы дзеяч. Тады прадстаўнікі БЦР пад імем М. Шылы напісалі й выдалі брашуру «А што далей», у якой, быццам славамі памёршага, хвалілі БЦР і ейнага прэзыдэнта Р. Астроўскага. Уся гэтая справа хутка была раскрытая й здэмаскаваная. Цяпер іншыя прадстаўнікі тойжа самай БЦР хочуць падмацаваць яе аўтарытэт у вачох беларускай эміграцыі імем Янкі Чарапука-Змагара выдуманай прыналежнасьцяй яго да БЦР. Аднак старая пагаворка кажа: «маной сьвет пройдзеш, але назад ня вернешся»,

**В. Пануцэвіч**

## *Ліст у Рэдакцыю*

**Вельміпаважаны Спадару Рэдактару!**

У сувязі із зьмешчаным у № 49 (383) рэдагаванае Вамі газэты ад 8 сьнежня 1957 г. лістом у рэдакцыю Проф. Дра Яна Станкевіча ветліва просім Вас падаць да агульнага ведама наступнае вясьненьне:

1. У словах «мяртвых, мяртвыя», што апыніліся ў друкаваных у «Беларускім Зборніку» Інстытуту Вывучэньня СССР тэкстах д-ра Я. Станкевіча, няма нічога ад польскага «мартвы», як гэта неабдумана цьвердзіць д-р Я. Станкевіч, паколькі ў іх «я» паходзіць ня з «а», а зь «е», як і ў гэткіх аднакарэнных зь імі словах, як «памярцьвіць» (ужывае сам д-р Я. Станкевіч), «памярці» («круці — ня круці, а давядзецца памярці» — ведамая народная прыказка), «мярцьвяк», «зьмярцьвелы» й пад. Проста тут націск у прыметніку «мертвы» пастаўлены не на пачатку, а на канцы, у поўнай згодзе з тэй тэндэнцыяй нашае мовы, якую адзначае, прыкладам, сам д-р Я. Станкевіч у сваім «Падручніку крывіцкае (беларускае) мовы», ч. I—III, Рэгенсбург, 1947, б. 94, § 106 (Націск некаторых прыметнікаў), падаючы гэнам, між іншага, гэткія, зусім аналягічныя дадзенаму, прыклады, як бляды (калі не паставіць тут націск на канцы, дык паводля лёгікі д-ра Я. Станкевіча, давялося-б таксама ўважаць за нейчае «стварэньне» з польскага «бляды» зь «я» пад націскам), сівы, дармавы, млынавы й інш. З гэткім націскам на канцы, у артаэпічна-артаграфічнай форме «мяртвы», слова гэтае здараецца ў народнай мове (магчыма, не без падтрымальнага ўплыву націску свайго сэмантычнага антаніма «жывы»), прынамся, ня менш рэдка, нязвычайна й няпраўна, чымся гэткія, падаваныя тамсама д-рам Я. Станкевічам прыклады, як гаркі, драбны, радкі, цьвярды (пры часьцей сустраканых ды ў літаратурным ужытку больш звычайных горкі, дробны, рэдкі, цьвёрды), або мылкі, шпаркі, часты (усе з націскам на канцы). У літаратурнай мове «мяртвы» й пад. ужывалі Цішка Гартны, Лукаш Калюга ды некат. іншыя пісьменьнікі.

2. У другім, падаваным у лісьце д-ра Я. Станкевіча выпадку слова «бодка» замененае на іншае запраўды неадпаведна, паколькі слова гэтае ў навакольным кантэксьце было толькі паясьняльным прыкладам да прыведзенага там аднакарэннага зь ім «радабодзь», і ў дадзеным выпадку ад нас д-ру Я. Станкевічу належыцца перапрашэньне, якое гэтта й складаем. Здарылася гэта, аднак, таму, што слова «бодка» заміж агульнапрынятага «пункт» у цэлым нашым друку ўжывае тымчасам адзін толькі д-р Я. Станкевіч, і карэктары нашыя звыклі папраўляць яго ў згодзе з агульным ужыткам, якога нашая рэдакцыя трымаецца, ды ў дадзеным выпадку зрабілі гэта чыста мэханічна й неабдумана (зрэшты, зусім таксама неабдумана, як робіць д-р Я. Станкевіч, цьвердзячы аб «польскасьці» слова «мяртвы» нат наўсуперак самым ім вызнаным і адзначаным моўным тэндэнцыям).

3. Карыстаемся тутака з нагоды, каб адзначыць, што слова «прымеж», якое ў тым-жа лісьце, дый часьцяком наагул, ужывае д-р Я. Станкевіч, ідзе зусім упоперак з ужываньнем у нашай літаратурнай мове, якая знае толькі «між», «паміж», «спаміж», праміж», «заміж» і падобныя аднакарэнныя, а ня «меж», «памеж», «спамеж», «прамеж», «замеж», знаныя дзе-ня-дзе ў народных гаворках. Ак. Карскі ў сваіх «Белорусах» (пад рукамі ў нас выпуск і апошняга савецкага перавыданьня тому II, Масква, 1955 г., б. 403) падае «прыміж», адзначанае ў чатырох мясцовасьцях (Магілеўшчына, Меншчына, Вялейшчына, Аршаншчына) супраць «прымеж», зарэгістраванага ўсяго ўваднэй (Сьвянцяншчына). Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» не зрабіла тут папраўкі д-ру Я. Станкевічу, але рэдакцыя беларускіх выданьняў Інстытуту Вывучэньня СССР папраўляла й наўперад маніцца папраўляць яго й тут, як і заўсёды, у згодзе з тымі тэндэнцыямі літаратурнай мовы, што выразна ў ёй выступаюць, зьбягаюцца зь кірункам большае нацыянальнае самабытнасьці ды паказальнікам большае часьціні ўжываньня, якое, да таго-ж, заўсёды варта як найбольш і з розных бакоў абдумваць ды прадумваць.

**Рэдакцыя беларускіх выданьняў Інстытуту Вывучэньня СССР**

# Казка для дарослых

**(З радыёвай хвалі «Вызваленьне»)**

Дарагія Грамадзяне!

Што як што, але на недахоп палітычнай актыўнасьці ў нашых калектыўных кіраўнікоў наракаць ня можам. Булганін рэгулярна, кажнага месяца, засыпае заходніх прэм'ераў вялізарнай лявінай міралюбных лістоў і зваротаў; Хрушчоў амаль рэгулярна штотыдня па некалькі гадзін робіць «пабалачкі» з заходнімі журналістымі і, як карыфэй усіх навук, вучыць іх, што Амэрыканцы або Ангельцы маюць рабіць, а чаго рабіць не павінны; што маюць сеяць і што разьдзельным спосабам жаць.

Цяпер да гэтага хору далучыўся і Грамыка. І трэба сказаць, што задэбютаваў арыгінальна...

Вось-жа нядаўна, гутарачы з замежнымі гасьцямі, Грамыка сказаў, што калектыўныя кіраўнікі хацелі-б навязаць дыпляматычныя дачыненьні з... **Ватыканам.**

Можна спадзявацца, што ў наступнай лявіне булганінскіх лістоў будзе адзін і да Рымскага Папы, у якім Булганін запрапануе падпісаньне з Ватыканам пакту аб неагрэсіі.

Праўда, калектыўныя кіраўнікі маюць некалькімільённую армію й балістычныя ракеты, а Рымскі Папа — толькі некалькі дзесяткаў гэтак званых швайцарскіх гвардыстых, якія ў сьмешных сярэднявяковых вопратках і касках зь сярэднявяковымі галябардамі стаяць дзеля парады ў ватыканскім палацы. Але гэтая дыспрапорцыя ваеннага патэнцыялу не перашкодзіць Хрушчову падпісаць з Папай Рымскім пакту аб узаемным ненападзе: ўсероўна Папа з 50-цю галябарднікамі ня пойдзе пад Барадзіно або Сталінград, а Хрушчоў так і так у вадпаге[illegible] атрымае ўмовы, бо ён ніколі не датрымоўваў яе. А ці шкодзіць зрабіць шмат шуму і прапаганды?...

Я асабіста, Грамадзяне, вітаў-бы навязаньне гэтых дыпляматычных узаемадачыненьняў. Бо, падумайце, каб наш унівэрсальны Мікіта, які так карыфэйна вучыць Айзэнгаўэра, Адэнаўэра, Макміляна і іншых, захацеў навучаць Рымскага Папу, як і калі махаць кадзілам, ён-бы мусіў хаця ў стаханаўскім тэмпе зрабіць другі рабфак багаслоўя. А мы-б з гэтага мелі толькі пажытак, бо, папершае: Мікіта заняўся-б паважнай працай, і ня меў-бы часу шмат гутарыць, а, падругае: на курсе тэалёгіі Мікіта даведаўся-б, што трэба кажнага чалавека любіць, як самога сябе, што ня можна забіваць, прымушаць, адбіраць. Ну, а калі-б даведаўся, дык Мікіта ня быў-бы Хрушчовым, каб ня пахваліўся. Такім чынам, і Булганін з супалкай пазналі-б гэтыя адвечныя праўды.

Далей, Грамадзяне, я прапанаваў-бы, каб першым савецкім амбасадарам пры Ватыкане быў генэрал Іван Сероў. Праўда, ён спачатку мусіў-бы выспавядацца з сваіх грахоў і, пэўна-ж, што той сьвятар, які-б спавядаў Серава, за паўгадзіны пасівеў-бы, як яблынка, але мы-б віталі выспавяданага і пакутуючага за грахі Івана Серова, як і Мікіту Хрушчова, як дацэнта багаслоўя.

Вось-бы была сэнсацыя! Усе спутнікі — муха ў параўнаньні з такой падзеяй!...

Таму, Грамадзяне, пажадаем нашым родным скалектывізаваным, каб яны дайшлі да гэтай мэтамарфозы. А тады ўжо ня трэба будзе думаць аб вадародных бомбах, балістычных ракетах і іншым паскудзтве...

**пс**

# Зь беларускага жыцьця

## Беларускія высокія школы ў мінуласьці

**(ІЗ ЗБОРКІ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА Т-ВА Ў НЬЮ ЁРКУ)**

15 сьнежня 1957 г. Беларуска-Амэрыканскае Акадэміцкае Т-ва ў Нью Ёрку склікала зборку сваіх ньюёрскіх і акалічных сяброў, на каторай старшыня Крывіцкага Навуковага Таварыства, Др. Я. Станкевіч меў чытань на тэму: «Беларускія высокія школы ў мінуласьці». Чытаньнік расказаў пра беларускую акадэмію ў Вільні, пра беларускую акадэмію ў Полацку і пра іншыя высокія беларускія школы ў мінуласьці.

Віленская акадэмія былаператвораная ў 1578 г. зь Віленскае калегіі. На працягу двух стагодзьдзяў яна была цэнтрам высокае асьветы ў Беларусі. У 1781 г. Віленская акадэмія была рэфармаваная ў Галоўную Школу Вялікага Княства Літоўскага, гэтага задзіночанага гаспадарства беларускага. У 1803 г., значыцца ўжо за расейскага часу, акадэмія атрымала назоў Віленскага ўнівэрсытэту.

Але беларускія высокія школы, гэтая спадчына незалежнага беларускага гаспадарства, пад Расеяй доўга не паіснавалі. Расейскі ўрад зачыніў у 1830 г. Полацкую акадэмію, у 1832 г. Віленскі ўнівэрсытэт, у 1842 г. зьліквідаваў Мэдычную акадэмію, а Духоўную акадэмію таго-ж году перавёў у Пецярбург.

Вялізарныя, асабліва Віленскага ўнівэрсытэту, бібліятэкі гэтых школаў былі вывезеныя ў Расею, часткава на Ўкраіну. Таксама ўсе рукапісы Віленскага ўнівэрсытэту, найдарожшыя адзіныя эгзэмпляры (113 штук), былі забраныя ў Архіў Міністэрства Асьветы ў Пецярбурзе. Бібліятэка Віленскага ўнівэрсытэту, што на працягу двух з паловінаю стагодзьдзяў была цэнтрам навуковае думкі краю, сталася кадрам папаўненьня кнігаў, якіх не ставала ў расейскіх высокіх школах і навуковых установах. Таксама быў вывезены нумізматычны кабінэт унівэрсытэту.

У 1863 г. Сельска-Гаспадарскі Інстытут быў пераведзены з Горы-Горкаў у Пецярбург. Пасьля гэтага ў Беларусі не засталося ніводнае высокае школы, ды ня толькі ў Беларусі цэнтральнай і заходняй, што былі забраныя Расеяй у канцы XVIII стг., але й у ўсходняй і паўночнай, што былі забраныя ўперад, як Смаленшчына, Севершчына, Пскоўшчына, Вярхоўскія землі (землі ля вышняе Акі й вышняе Дзясны); навет зрусыфікаваная Разаншчына ня мела высокае школы.

«Ненармальнасьць такога палажэньня, калі вялізарны край, з асаблівымі прыроднымі ўмовамі і старой культураю, застаўся бяз высокае школы, была зырка ўсьвядомлена кіруючымі грамадзкімі коламі», — добра кажа праф. Пічэта. Дыкжэ па зачыненьні менаваных высокіх школаў, на працягу XIX і пачатку XX стг. да першае сьветавае вайны дваранства Беларусі на сваіх зьездах, месцкія рады Віцебску, Менску, Вільні, Віцебскае, Магілеўскае й Менскае земствы абярняся звярачаліся да расейскага ўраду з просьбаю дазволіць адчыніць унівэрсытэт, а калі не ўнівэрсытэт, дык іншую высокую школу, у вадным зь беларускіх местаў.

Думка пра неабходнасьць адчыненьня ў Беларусі ўнівэрсытэту так насьпела й патрэба ў унівэрсытэце так войстра адчувалася, што ў 1916 г., не зважаючы на ваенныя падзеі, Магілеўскае Губэрнскае Земскае зыбраньне, Віцебская Губэрнская Земская Рада, Менская Месцкая Рада і Менскае Губэрнскае Земства рабілі стараньні перад урадам пра адчыненьне ўнівэрсытэту ў вадным зь беларускіх местаў.

На ўсе гэтыя стараньні расейскі ўрад адказваў адмоваю. Расея баялася, каб унівэрсытэт у Беларусі ня стаўся цэнтрам нацыянальна-культурнага й палітычнага беларускага руху.

Расейскія чорнасоценцы, а зь імі цяпер і расейскія камуністыя цьвердзяць, што Расея не дазваляла Беларусі мецьунівэрсытэту дзеля таго, каб ня вучыліся ў ім «польскія паны». Запраўды-ж спалячаныя беларускія паны, дзякуючы свайму багацьцю, мелі поўную магчымасьць вучыць сваіх дзяцей на ўнівэрсытэтах у Расеі й у Украіне, і імі гэтыя ўнівэрсытэты былі перапоўненыя. Беларуская засьценкавая шляхта, сялянства й мяшчанства такое магчымасьці ня мелі. Што ня дзеля «польскіх паноў», але дзеля Беларусаў не дазваляла Расея мець Беларусі ўнівэрсытэту і іншых высокіх школаў, відаць таксама і з таго, што ў Беларусі ня была адчыненая навет праваслаўная духоўная акадэмія, хоць у ёй «польскія паны», як каталікі, ня вучыліся-б.

Чытаньнік таксама паказаў, што адчыненьне цяперашняга ўнівэрсытэту ў Менску было ў вялікай меры прыгатавана беларускімі нацыянальнымі сіламі яшчэ да заняцьця Беларусі бальшавікамі. Бальшавіком, каб не скампраматавацца, заставалася згадзіцца на прыгатаваную іншымі справу і канчальна ўжыцьцёвіць яе, карыстаючыся тымі-ж беларускімі нацыянальнымі сіламі, але ўжо будучымі пад іхным загадам.

**Пр. М.**

### У БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЕ МЭЛЬБУРНУ

У дзень Новага 1958 Году Беларускі Школьны Камітэт наладзіў калядную ялінку для беларускіх дзяцей Вікторыі.

Урачыстасьць адчыніла сп-ня Яцкевіч, старшыня Камітэту й настаўніца беларускай школы. У сваім слове сп-ня Яцкевіч прадставіла важнасьць патрэбы пасыланьня моладзі й дзяцей у Беларускую школу. Моладзь і дзеці дарастаюць хутка й неўзабаве папоўняць нашыя грамадзкія шэрагі, а з часам і заменяць нас. Таму мы й павінны рабіць усё патрэбнае, каб падрыхтаваць сабе надзейную зьмену.

Наступна з прамовай выступіў кіраўнік школы сп. А. Жураўлевіч. Падзякаваўшы настаўнікам і вучням за праробленую працу, ён зачытаў гадавыя ацэнкі вучняў. Потым шырока паінфармаваў аб патрэбах школы ды заклікаў грамадзтва пасылаць дзяцей у школу, дапамагаць і цікавіцца школай. Навагоднімі пажаданьнямі сп. Жураўлевіч закончыў сваю прамову.

Весела ўзварухнулася заля, калі ўвайшоў Дзед Мароз, ды й ня з пустымі рукамі. Усе з прыемнасьцяй адзначылі, што гэта той самы, што быў і летась. Навет самыя ўпорыстыя паверылі, што ён зь Беларусі.

Беларуская школа пад кіраўніцтвам сп-ні Яцкевіч наладзіла мастацкі выступ, які складаўся зь дзвёх частак. У першай частцы школьны хор выконваў калядныя песьні. Сьвежа й звонка пераліваліся дзіцячыя галасы. У перамешку з калядкамі вучні школы Міхась і Юра Каднякі, Алесь Сьлесарэвіч, Мікола Кукель і Аля Яцкевіч дэклямавалі калядныя вершы, сьвежа напісаныя А. Салаўём і Д. Баянам. Часткай другой была пастаноўка напісаная Д. Баянам, «Сьвяты Вечар».

Шчодрыя воплескі былі ўзнагародай маладым артыстым, спасярод якіх выразьніліся Алесь Сьлесарэвіч і Вячка Раманоўскі.

Дзед Мароз узнагародзіў дзяцей шчодрымі падарункамі, наказваючы ім быць паслухмянымі ды добра вучыцца.

На заканчэньне гэтае часткі з прамовай выступіў сакратар Школьнага Камітэту сп. С. Розмысл.

Дзецям быў наладжаны пачастунак ды шмат цікавых неспадзевак і гульняў.

Беларуская школа закончыла два гады працы й перайшла ў трэйці. Хоць шмат было цяжкасьцяў і недахопаў, а асабліва што да падручнікаў, аднак праробленa вялікая праца. Дзякуючы ахвярнасьці настаўніка Сідлярэвіча, школа атрымала сталае й выгаднае памешканьне ў ягоным доме.

Беларускім настаўнікам сп. сп. Жураўлевічу, Сідлярэвічу й сп-ні Яцкевіч належыцца прызнаньне й падзяка. За наладжаньне гэтак прыгожага сьвята падзяка належыцца сп. сп. Э. Яцкевіч, Аўгену Грушу, Ліне. Алегу і Ўладзімеру Шнэкам і С. Розмыслу ды ўсім ахвярадаўцам, якія зláжылі на гэта грошы.

**Лявон Сьвецiч**

### КАЛЯДНЫ ВЕЧАР У YWCA (НЬЮ ЁРК)

Ужо пяты год Нью-ёркскі аддзел Згуртаваньня Беларускай Моладзі ў Амэрыцы зьбіраецца штотыдня ў YWCA.

16-га сьнежня 1957 г., як і ў папярэднія гады, моладзь брала ўдзел у калядным канцэрце ў YWCA. У беларускай частцы праграмы, пасьля кароткай даведкі аб Беларусі, калядных звычаяў і традыцыях, калядоўшчыкі із зоркаю прапялі «Неба і зямля» і «Саўка ды Грышка». Леанід Рудзінскі акампаньяваў, а пазьней сам выканаў адну амэрыканскую калядку на акардыёне. Далей — беларускі народны скок «Крыжачок», выкананы танцавальным гуртком ЗБМА Нью Ёрку (В. Паланевіч, О. Мэльяновіч, А. Каваль, Н. Каваль, А. Лысюк, Э. Вэдмід, А. Александровіч, О. Захаркевіч). Скок увайшоў у калядную праграму на адмысловую просьбу ад YWCA і дасканалае выкананьне ды прыгожая нацыянальная вопратка былі міла прынятыя гледачамі.

Калядоўшчыкі, выступаючы тут першы раз, зьбіраліся адведаць беларускую калёнію на сьвяты. Падрыхтоўка вялася на зборках аддзелу, дзе калядкі вучыла сяброўка Ала Орса. Там-жа яна кіруе заняткамі танцавальнага гуртка, пры акампаньямэньце сяброўкі Галіны Орса. Гурток танцуе, апрача «Крыжачка», «Мікіту» й вучыцца «Лявоніху» й «Бульбу».

**В.С.**

### ГАДАВЫ СХОД АДДЗЕЛУ ЗБМА Ў НЬЮ ЁРКУ

22-га лістапада 1957 г. у памешканьні YWCA ў Брукліне адбыўся гадавы сход аддзелу ЗБМА ў Нью Ёрку.

У прэзыдыюм сходу былі выбраныя В. Станкевіч (старшыня) і А. Орса (сакратарка).

На сходзе была выбраная новая ўправа аддзелу ЗБМА Нью Ёрку у наступным складзе: Міхась Казьлякоўскі — кіраўнік, Анатоль Александровіч — заступнік, Віця Паланевіч — скарбнік, Васіль Мэльяновіч — сакратар, Оля Мэльяновіч — сябра.

У рэвізійную камісію ўвайшлі: Аркадзь Каваль, Паўла Алексы, Мікола Александровіч.

**Управа ЗБМА аддзелу Нью Ёрк**

### КАЛЯДЫ Ў ПАРЫЖЫ

29-га сьнежня 1957 г. беларуская калёнія ў Парыжы сьвяткавала супольна Каляды.

У 11 гадз. была наладжна Божая Служба ў Беларускай капліцы, дзе а. Гарошка сказаў прыгагоднае казаньне.

Пасьля Божае Службы сабралася шмат беларускіх сем'яў у вялікай залі Хрысьціянскага сындыкату, прыгожа ўдэкараванай і зь ёлкай. Прывітаўшы Прэзыдэнта Рады БНР інж. Абрамчыка і ўсіх гасьцей, айцец Леў напомніў прысутным аб вялікім значаньні гэтага сьвята.

Пасьля гэтага усе заселі да багата падрыхтаваных сталоў, дзе пад гукі калядных песьняў і беларускай музыкі, госьці весела праводзілі час. Калядныя песьні выконвалі Ніна Дударэвіч і Вера Міцкевіч.

З дэклямацыямі вершаў выступілі дзеці: Шурык Дударэвіч, Таня Кавалеўская, Тэрэса Эльяшэвіч. Дзяўчаткі сп. Буйвілы прасьпявалі песьню «Люблю наш край...»

Пасьля мастацкай часткі Дзед Мароз абдорваў усіх святочнымі падарункамі.

Не агледзеліся, як хутка прайшоў час у гэтай мілай сямейнай беларускай атмасфэры.

**Прысутны**

### ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

З увагі на тое, што некаторыя з нашых беларускіх асяродкаў на эміграцыі, як і асобныя Беларусы, зварачаюцца да нас з просьбаю прыслаць ім 2-ую кніжку матар'ялаў «ГАВОРЫЦЬ РАДЫЁ 'ВЫЗВАЛЕНЬНЕ'», паведамляем наступнае:

2-ая кніжка «ГАВОРЫЦЬ РАДЫЁ 'ВЫЗВАЛЕНЬНЕ'» яшчэ ня выдадзена. Падрыхтоўчая праца ў справе ейнага выданьня будзе скончана ў канцы лютага, і кніжка выйдзе друкам, прыблізна, у другой палавіне травеня гэтага году, аб чым паведаміцца ў газэце «Бацькаўшчына».

БЕЛАРУСКАЯ РЭДАКЦЫЯ РАДЫЯ «ВЫЗВАЛЕНЬНЕ»

### ПАДЗЯКА

**Усім сябром і прыяцелям, якія павіншавалі мяне й маю сям'ю з Калляднымі сьвятамі й Новым Годам, выказваю шчырую падзяку. У сваю чаргу жадаю ўсім ім добрага здароўя, плённае працы на карысьць Бацькаўшчыны, вялікіх посьпехаў у змаганьні за вызваленьне ды шчасьця ў Новым 1958 Годзе.**

**Уладзімер Дудзіцкі**



**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі.**